**У НУМАРЫ**



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (778) ГОД XVI БЕЛАСТОК 24 СТУДЗЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


## У ГРАМАДАХ ПА-РОЗНАМУ

Несумненна, ГРН-ы павінны затрымацца часам над дасягненнямі і хібамі вясковых арганізацый, а таксама паасобных жыхароў сваіх грамад. А яшчэ калі б разгляд спалучыць з параўнаннем дасягненняў і недахопаў сваёй і суседніх грамад, атрымаліся б цікавыя прыклады і вывады. Затрымаемся на аглядзе двух грамад: Юшкаў Груд і Ялоўка ў Беластоцкім павеце, канцэнтруючы ўвагу на сельскагаспадарчых справах, паколькі яны найбольш характэрным для гэтых грамад. Грамады Юшкаў Груд і Ялоўку раздзяляе грамада Шымкі, што аднак не перашкаджае знайсці і супольныя рысы ў іх жыцці. Сяляне абедзвюх грамад павышаюць свае веды па сельскагаспадарчых курсах. У 1970 годзе такія курсы закончыліся ў трох вёсках грамады Юшкаў Груд: у Адногзе, Бяндзюзе і Боўтрыках.

Ад узроўню сельскагаспадарчых ведаў у сялян многае залежыць. У грамадзе Юшкаў Груд наглядаецца факт, што сяляне, якія павышаюць свае сельскагаспадарчыя веды, прымяняюць больш мінеральных угнаенняў. Сяляне Юшкаўгрудаўскай грамады высяваюць іх з кожным годам усё больш. Калі ў 1968/69 г. сеялі яны на 1 гектар зямельных угоддзяў 72 кілаграмы НПК у чыстым складзе, дык у 1969/70 г. пасеялі ўжо 85 кілаграмаў НПК. План куплі мінеральных угнаенняў грамада выканала ў 92,9%. Найлепш выканалі свае планы сяляне: Сцяпан Барташэвіч з Адногі — у 173%, Мікалай Клімовіч з Плянтаў — у 160%, Уладзіслаў Каліноўскі с. Юркі з Юшкавага Груда — у 156% і Лявон Казберук з Адногі — у 146%.

Сяляне Ялоўскай грамады выканалі свой план менш чым у 50%. Найбольш мінеральных угнаенняў купілі сяляне з Ганчароў, Дубляны і Ялоўкі.

Нічога тады дзіўнага, што ў грамадзе Юшкаў Груд сяляне сабралі збожжа 19 цэнтнераў з 1 гектара, а ў Ялоўскай грамадзе — толькі 13,8 цэнтнераў з 1 гектара.

На нізкія ўраджаі ў Ялоўскай грамадзе зрабіла ўплыў і тое, што не ўсе сяляне запраўляюць насенне, не ўсе апырскваюць збожжавыя культуры хімічнымі рэчывамі для ліквідацыі пустазелля або сеюць пад збожжа дастатковую колькасць фосфарна-калійных угнаенняў.

На павышэнне ўраджаяў збожжа вялікі ўплыў мела б таксама ліквідацыя церасплосіцы.

Найбольшыя клопаты з цераспалосіцай маюць сяляне з грамады Юшкаў Груд, з-за яе не могуць яны прымяняць у сябе агратэхнікі.

У абедзвюх грамадах праведзена меліярацыя, што значна адбілася на развіцці жывёлагадоўлі і надоях малака. Уводзіцца тут таксама так званае кватэрнае выпасванне кароў, дзякуючы якому можна больш эканамічна выкарыстоўваць пасбішчы.

Замала аднак імкнуцца сяляне да сіласавання травы. У абедзвюх грамадах пабудавана дагэтуль толькі некалькі сіласаў, якія выкарыстоўваюцца ўласціва. Многія сяляне маюць халодныя і слабенькія хлявы. Не ўсе рассяваюць

Працяг на стар.4

XV ГОД

## „ВЫСОКА ЦЭНІМ БГКТ", —кажа сакратар Лазоўскі



Беларускае грамадска-культурнае таварыства на працягу сваёй 15-гадовай дзейнасці стала неад'емнай часцінкай грамадскага краявіду народнай Польшчы. Яно як адзін з членаў Фронту адзінства народа пад палітычным кіраўніцтвам Польскай аб'яднанай рабочай партыі пастаянна і паслядоўна на працягу ўсіх гадоў свайго існавання заўсёды старалася ажыццяўляць далёкасяжныя мэты сацыялістычных пераўтварэнняў у нашай айчыне, прывіваць сваім членам і ўсім беларусам, пражываючым у Польшчы, любоў да роднага краю, замацоўваць асновы трывалага, дружнага сужыцця і творчай працы дзеля супольнай, лепшай будучыні.

— Так, гэта праўда, — гаворыць I сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы, тав. Аляксей Лазоўскі. — Мы высока цэнім дзейнасць БГКТ, а нашы назіранні за практычнай, штодзённай працай Беларускага таварыства поўнасцю пацвярджаюць вашы агульныя меркаванні. У нас, на Гайнаўшчыне, БГКТ мае поўныя і шырокія магчымасці для сваёй карыснай і вельмі для нас патрэбнай дзейнасці. У час пасяджэнняў нашай экзекутывы мы часта абмяркоўвалі працу гайнаўскага аддзела БГКТ. На аснове гэтага магу сказаць, што без актыўнага ўдзелу членаў таварыства, або аддзела БГКТ як асноўнага арганізатара, не адбылася ў нас ніводная важнейшая ўрачыстасць, ці нейкая падзея, або гадавіна. Вось для прыкладу: калі наш народ урачыста адзначаў 50-ую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, гайнаўскі аддзел БГКТ з гэтай нагоды наладзіў шматлюдны фэст у Семяноўцы. Калі мы прыгадвалі ахвярную дзейнасць Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, актывісты БГКТ з Гайнаўскага павета наладзілі фэсты ў Вульцы Выганоўскай і ў Дубічах Царкоўных. Калі цэлая краіна святкавала 25-ую гадавіну перамогі народнай улады ў Польшчы, БГКТ у нашым павеце гэтай знамянальнай падзеі прысвяціла фэст у Семяноўцы. Ленінскі юбілей гайнаўскі аддзел БГКТ адзначаў урачыстым, багатым і шматлюдным фэстам у Палічнай, а чарговую гадавіну Войска Польскага святкавалі мы на фэсце ў Старым Ляўкове. Гэта толькі прыклады. Усяго не пералічыш і не спамятаеш. Ды збіраліся і з'язджаліся людзі не толькі па прычыне нейкай «нагоды». Здаралася гэта часта без асаблівай акацыі. Проста так. Каб супольна правесці час, каб павесяліцца, паспяваць любімыя польскія, рускія, беларускія і свае мясцовыя, народныя песні, каб паслухаць літаратурныя творы сваіх родных аўтараў. Вось Алесь Барскі і наш зямляк Віктар Швед сталі на Гайнаўшчыне найбольш вядомымі пісьменнікамі. Ды збіраліся людзі не толькі пад блакітным небам і зялёнымі кронамі белавежскіх дубоў. Былі для іх адкрыты ўсе клубы і святліцы. Вось колькі раз у завадскім доме культуры «Гурнік» у Гайнаўцы грымела звонкая, або задушэўная беларуская песня, калі праходзілі там агляды самадзейных вясковых народных калектываў. Неяк найбольш мне запомніўся гайнаўскі беларускі хор і вельмі актыўны аматарскі калектыў з Семяноўкі.

— Якое значэнне, на вашу думку, мае беларускі самадзейны мастацкі рух?

— Я, ды не толькі я, ацэньваю яго вельмі станоўча. Мастацкі аматарскі рух прывівае нашай грамадскасці сапраўдную любоў да роднага, свайго, вучыць цаніць гэтае роднае. А толькі той, хто цэніць і любіць сваё, можа шчыра цаніць і правідлова разумець чужое. Культурна-асветная — гэтая практычная, штодзённая — дзейнасць БГКТ спрыяе ўкараненню сяброўскіх адносін да нашых суседзяў з-за ўсходняй мяжы, з якімі ў нас вельмі частыя і плённыя кантакты.

— Гэта відаць нават у вашым кабінеце. Вось тут, на кніжнай паліцы, бачу кніжкі пра Гродзенскую і Брэсцкую вобласці, а гэтая, рэзаная ў дрэве, арыгінальная скульптура — яўны сімвал супольнай савецка-польскай барацьбы за вызваленне з-пад акупацыі.

— Так. Гэта падарунак ад працоўных Свіслацкага раёна на 25-ую гадавіну народнай улады. У нашых прыгранічных кантактах члены і актывісты БГКТ заўсёды прымаюць актыўны ўдзел.

— Дагэтуль гаварылі мы ў асноўным пра культурна-асветную дзейнасць БГКТ. Цікава, як вы ацэньваеце ўдзел членаў Беларускага таварыства ў ажыццяўленні гаспадарчых задач?

— Асноўная дзейнасць БГКТ у Гайнаўскім павеце канцэнтруецца ў вёсках, у сялянскіх кругах. Сярод членаў таварыства ёсць многа перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Яны асабістым прыкладам заахвочваюць іншых сялян да лепшага гаспадарання. Ды агульная раз'ясняльная дзейнасць таварыства, хай яна і не адносіцца непасрэдна да прафесіянальных сельскагаспадарчых спраў, аб'ектыўна беручы, спрыяе лепшаму разуменню і хутчэйшаму ўспрыманню ўсялякіх навінак

Працяг на стар.4

*Фота Цаф — Сянько*



Ну вось і скончыўся доўгі
паядынак,
Вятроў гамонка сціхла. Лес
у сне.
Скупое сонца ў безлічы
іскрынак
Адлюстраваў сцюдзёны
першы снег.

Як дабяла адмытая бялізна,
Лягла на дол сняжынак
белізна.
І сонца шар халодны і вялізны
Зямлі нямой нібыта не пазнаў.

**Алесь Звонак**

# ◇Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ

### КАНФЕРЭНЦЫЯ КАМПАРТЫЙ

У Лондане адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў кампартый краін Заходняй Еўропы. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі камуністычных і рабочых партый 15 краін: Аўстрыі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Грэцыі, Даніі, Ірландыі, Іспаніі, Італіі, Нідэрландаў, Нарвегіі, Фінляндыі, Францыі, ФРГ, Швейцарыі і Швецыі.

Канферэнцыя абмеркавала стратэгію і тактыку барацьбы камуністычных партый супраць панавання манаполій.

### ПАКАРЭННЕ НІЛА

Спрадвеку егіпцяне марылі аб пакарэнні капрызнай ракі Ніл. Значная маса нільскай вады (у сярэднім 32 мільярды кубаметраў у год) без усякай карысці скідвалася ў Міжземнае мора.

Пасля рэвалюцыі 1952 года егіпецкі ўрад вырашыў пабудаваць вышынную Асуанскую плаціну. У 1958 годзе паміж Егіптам і СССР было дасягнута пагадненне па гэтаму пытанню. Работы па будаўніцтву плаціны пачаліся 9 студзеня 1960 года.

Стварэнне Асуанскай плаціны дало магчымасць расшырыць плошчы карысных зямель у Нільскай даліне на 25—30 працэнтаў. Увод у эксплуатацыю гідраагрэгатаў Асуанскага гідравузла даў магчымасць павялічыць выпрацоўку электраэнергіі ў Егіпце амаль у 4 разы ў параўнанні з 1960 годам.

### ПРЫБЫЦЦЁ Ў ПЕКІН

У Пекін прыбыў кіраўнік савецкай урадавай дэлегацыі па перагаворах паміж СССР і КНР намеснік міністра замежных спраў СССР Л. Ільічоў. Ён выязджаў у Маскву на сесію Вярхоўнага Савета СССР.

### БАНКРУТЫ Ў ЯПОНІІ

Паводле даных такійскай Палаты гандлёва-прамысловага крэдыту, у Японіі ў 1970 годзе аб'явілі сябе банкрутамі 9.765 дробных і сярэдніх кампаній. Агульная сума запазычанасці кампаній, якія разарыліся, складае 729.233 мільёны іен.

### ВЫБАРЫ Ў ІНДЫЙСКІ ПАРЛАМЕНТ

Індыя ідзе насустрач датэрміновым парламенцкім выбарам. Выбары ў Народную палату парламента адбудуцца ў перыяд з 26 лютага па 4 сакавіка гэтага года.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ АБЯЗДОЛЕНЫХ

У Атаве адбылася ўсеканадская канферэнцыя беднякоў, у якой прысутнічалі дэлегаты ад 250 арганізацый канадцаў з нізкім узроўнем даходаў і беспрацоўных.

Паводле даных эканамічнага савета Канады, каля пяці мільёнаў канадцаў, або адна чвэрць усяго насельніцтва, жывуць у галечы. Амаль паўмільёна чалавек цяпер не маюць работы.

### НАСЕЛЬНІЦТВА РУМЫНІІ

У Румыніі налічваецца цяпер 20,4 мільёна жыхароў. У апошнія 5 гадоў сярэднегадавыя тэмпы прыросту насельніцтва склалі 1,3 працэнта.

У прамысловасці цяпер занята каля 22 працэнтаў, а ў сельскай гаспадарцы — 51 працэнт актыўнага насельніцтва ў параўнанні з 12 і 74 працэнтамі адпаведна ў 1950 годзе. (ак)

 БССР

### ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ

Па прапанове камісіі па Дзяржаўных прэміях БССР Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў Беларускай ССР пастанавілі прысудзіць Дзяржаўныя прэміі БССР за 1970 год:

*у галіне літаратуры* — прэмію імя Янкі Купалы — КУЛЯШОВУ Аркадзю Аляксандравічу, народнаму паэту БССР, за пераклады кніг «Выбраная паэзія» М. Ю. Лермантава, «Энеіда» І. П. Катлярэўскага і «Спеў аб Гаяваце» Генры Лангфела;

*у галіне выяўленчага мастацтва* — Андрэю БЕМБЕЛЮ, народнаму мастаку БССР, галоўнаму мастацкаму кіраўніку праекта, і архітэктару Алегу СТАХОВІЧУ за мастацкае і архітэктурнае афармленне мемарыяльнага комплексу «Курган славы»;

*у галіне музыкі* — кампазітару Яўгену ГЛЕБАВУ, заслужанаму дзеячу мастацтва БССР, за музыку балета «Выбранніца» і араторыю «Свяці, зорка»;

*у галіне тэатральнага мастацтва* — Леаніду РАХЛЕНКУ, народнаму артысту СССР, за акцёрскія работы апошніх гадоў у Беларускім дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы.

### 100-ГОДДЗЕ «СЛОЎНІКА»

100 гадоў таму назад рускі вучонымовазнаўца І. Насовіч апрацаваў і выдаў «Словарь белорусского наречия». Гэта лексікаграфічная праца стала важнай вехай у развіцці беларускай мовы і лінгвістычнай навукі. І. Насовіч разглядаў беларускую мову як самастойную, а яго «Словарь» быў задуманы як поўны збор беларускай лексікі другой паловы XIX стагоддзя. Акадэмія навук БССР урачыста адзначыла гэтую знамянальную гадавіну ў развіцці беларускай культуры.

### «ДЗЕ ЦЯЧЭ НЁМАН»

Так называецца кніжка Чэслава Кудыбы, які з'яўляецца вучоным-географам, геолагам і пісьменнікам — вандроўнікам. У сваёй кнізе-рэпартажу апісвае ён выдатныя мясціны роднага краю і людзей, якія свой лёс і жыццё з імі звязалі. Дык знойдзем там звесткі пра Якуба Коласа, Уладзіслава Сыракомлю, Адама Міцкевіча і Элізу Ажэшка. Кніжку выпусціла выдавецтва «Мінсіс» Літоўскай ССР.

### МІНСК У 1971 ГОДЗЕ

13 студзеня г.г. сесія горсавета сталіцы БССР зацвердзіла план развіцця гарадской гаспадаркі і бюджэт Мінска на 1971 год. Прамысловая прадукцыя горада ўзрасце на 5,4 працэнта. Мінчане атрымаюць 17 тысяч новых добраўпарадкаваных кватэр. План прадбачвае пабудову школ і дашкольных установ. Гарадская камунікацыя атрымае 50 тралейбусаў, 120 аўтобусаў і 174 таксі. (вр)

 ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ

16 студзеня І сакратар ЦК партыі Эдвард Герэк і прэзас Рады Міністраў Пётр Ярашэвіч нанеслі ў Празе візіт І сакратару ЦК КПЧ Густаву Гусаку і старшыні ўрада ЧССР Любаміру Штрогалю. Кіраўнікі абедзвюх партый і дзяржаў паінфармавалі адзін другога аб дзейнасці і актуальных праблемах КПЧ і ПАРП. Абодва бакі выказалі пагляд на тэму магчымасці пашырэння і паглыблення палітычнага, гаспадарчага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, а асабліва супрацоўніцтва ў галіне спецыялізацыі і кааперацыі прадукцыі. Абодва бакі пацвердзілі сваю волю ўмацоўвання адзінства сусветнага камуністычнага і рабочага руху на базе ідэалаў марксізма-ленінізма і пралетарскага інтэрнацыяналізма.

### ПРАФСАЮЗЫ

15 студзеня адбылося пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў. Пленум прыняў бюджэт цэнтральнай рады прафсаюзаў і разгледзеў арганізацыйныя справы. Датыхчасовы старшыня Цэнтральнай рады Ігнацы Лога-Савінскі склаў адрачэнне з пасады. Пленум прыняў адрачэнне аднагалосна, выбіраючы на гэтую пасаду Уладзіслава Кручка, члена Палітбюро партыі — датыхчасовага І сакратара Ваяводскага камітэта партыі ў Жэшове.

### У ПЛОЦКУ

Плоцк — цэнтр польскай петрахіміі — наведаў 15 студзеня Эдвард Герэк разам з І сакратаром Варшаўскага камітэта Генрыкам Шафранскім і старшынёю Варшаўскай ВРН Юзэфам Пінкоўскім. Пасля агляду горада і прадпрыемства адбылася сустрэча з групай будаўнікоў камбіната і актывістамі партыйных арганізацый прадпрыемстваў.

### ЛІСТ

На прадпрыемствах усяе краіны адбыліся дыскусіі над лістам Сакратарыята ЦК партыі да старшынь камітэтаў рабочага самаўпраўлення і галоўных дырэктараў прадпрыемстваў у справе ўмоў працы і сацыяльных умоў рабочых. На многіх прадпрыемствах прынята шэраг пастаноў, мэтай якіх з'яўляецца паляпшэнне ўмоў жыцця і працы рабочых.

### НАВУКА І ТЭХНІКА

14 студзеня адбылося пленарнае пасяджэнне камітэта Навукі і тэхнікі. Тэмай пасяджэння быў аналіз цэнтральнага плана навуковай дзейнасці ў 1971—1975 гадах, а таксама забеспячэнне яго рэалізацыі ў 1971 годзе. Апрача гэтага, пленум разгледзеў праект прынцыпаў каардынацыі цэласці навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з замежнымі краінамі.

### ГОСЦЬ З АЎСТРЫІ

Па запрашэнню міністра замежных спраў Польшчы Стэфана Ендрыхоўскага пабываў у Польшчы міністр замежных спраў Аўстрыі Рудольф Кірхшлегер з жонкаю. У час візіту было прааналізавана шэраг спраў як з галіны двубаковых адносін паміж Польшчай і Аўстрыяй, так і з галіны важнейшых міжнародных праблем. (п)

 ВАЯВОДСТВА

### НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ

На прадпрыемствах Беласточчыны ідзе жывая дыскусія над паляпшэннем сацыяльных умоў жыцця і працы. Дыскусія гэтая з'яўляецца водгукам на ліст Сакратарыята ЦК партыі аб спосабах паляпшэння сацыяльных умоў. У цэнтры ўвагі аказаліся тыя справы, якія трэба як найхутчэй вырашыць і можна гэта зрабіць уласнымі сіламі прадпрыемства, без дадатковых капіталаўкладанняў. Напрыклад, на фанернай фабрыцы вырашана зрабіць рамонт жылых памяшканняў у прыфабрычных дамах, давесці да іх водаправод, палепшыць умовы ў фабрычных раздзявалках. Будаўнікі на сваёй нарадзе абмяркоўвалі справу паляпшэння становішча рабочых, якія працуюць пад голым небам.

### НАРАДА Ў КМ ПАРП

Гэтым жа справам была прысвечана нарада ў гарадскім камітэце партыі ў Беластоку. У нарадзе, якую вёў І сакратар КМ ПАРП Ю. Трусевіч, удзельнічалі сакратары ПОП і дырэктары прамысловых прадпрыемстваў. Асаблівая ўвага была звернута на хуткае вырашэнне хвалюючых спраў сацыяльнага характару і на хутчэйшую выплату падвышкі для найменш зарабляючых рабочых. Падкрэслівалася асаблівая роля рабочых калектываў і прафсаюзных арганізацый у вырашэнні сацыяльных праблем.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ЖАНЧЫН

У мінулым тыдні адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскай рады жанчын. Тэмай пасяджэння было патрыятычнае выхаванне і абаронная падрыхтоўка жанчын. Прысутнічалі на пасяджэнні сакратар ВК ПАРП А. Младзяноўскі, намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, прадстаўнікі ЗБОВіД, ЛОК і Ваяводскага вайсковага штаба.

На пасяджэнні была падсумавана датэгачасная дзейнасць у напрамку выхавання патрыятызму сярод жанчын і моладзі, а таксама разнародныя формы абароннай падрыхтоўкі.

### НАРАДА ПЕДАГОГАЎ

Над паляпшэннем дыдактычна-выхаваўчай працы ў школах дыскутавалі на нарадзе, якую арганізавала Кураторыя беластоцкай школьнай акругі. На нараду былі запрошаны прадстаўнікі аддзелаў асветы прэзідыумаў павятовых рад народных. Віцэ-куратар беластоцкай акругі С. Роман выступіў з ацэнкай працы аддзелаў асветы за 1967—70 гады. У дыскусіі выступілі таксама кіраўнік аддзела прапаганды ВК партыі В. Авер, намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч і прадстаўнік міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі Б. Ціхі.

На нарадзе асаблівая ўвага была звернута на ўвядзенне новых педагагічных форм, на абавязковае павышэнне кваліфікацый настаўнікаў і іх спецыялізацыю. Звернута была таксама ўвага на супрацоўніцтва школ з выхаваўча-прафесіянальнымі параднямі.

(яч)




**Niedziela 24.I.1971**

8.00 Program dnia. 8.05 Kurs Rolniczy „Gospodarstwo przykładowe w produkcji trzody chlewnej". 8.40 Przypominamy, radzimy... 9.00 Dla młodych widzów: Klub Śmiałych. 9.55 Gra Orkiestra TV Katowice pod dyr. Ireneusza Wiłkarka. 10.30 Mecz w akrobatyce sportowej Polska — ZSRR. 11.40 Dziennik. 11.55 Program filmowy. 13.00 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych. Sprawozdanie z Zakopanego (otwarty konkurs skoków). 15.00 Przerwa. 15.30 Teatr Młodego Widza: Alina Korta „Nie taki diabeł straszny..." 16.10 „Kwiaty, drzewa, ptaki, ludzie" (Nowy cykl programu muzycznego poświęcony polskiej sztuce ludowej). 17.15 „W obiektywie". 17.45 Piosenka dla Ciebie. 18.35 PKF. 18.45 „Piórkiem i węglem". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zapraszamy na pół czarnej" (z Opola). 21.05 „Wielka wygrana" — film fab. USA. 22.30 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 25.I.1971**

15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych (Zakopane). 18.15 „Kino Filmów Animowanych". 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: M. Krleža — „Bank Glembay". 21.35 „Sylwetki X Muzy" — Zbigniew Sawan. 22.05 Dziennik.

**Wtorek 26.I.1971**

10.00 „Intymne oświetlenie" — film fab. czechosłowacki. 11.10 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — E. Ionesco — „Nosorożec". 12.35 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Potrzeby pokarmowe roślin". 14.25 Przerwa. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 Irańska sztuka ludowa — film bułg. 18.45 „Ambicje po polsku". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Kronika Spartakiady Zimowej (Zakopane). 20.20 Kino Interesujących Filmów: „Intymne oświetlenie" — film fab. czechosł. 21.30 „Samotność" — film baletowy TVP. 21.55 „Panorama Literacka". 22.25 Dziennik.

**Środa 27.I.1971**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Odkrywamy świat atomów". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Prąd elektryczny w metalach". 10.30 „Ślub w rodzinie" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 11.20 Przerwa. 12.00 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych (Zakopane). 13.30 „Wybieramy zawód". 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Aula". 17.15 Magazyn ITP. 17.25 „Obrońcy Stalingradu" — film radz. (ostatni odcinek). 17.50 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych (Zakopane). 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Czego szuka klient". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ślub w rodzinie" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 „Światowid". 21.25 „Na trzy czwarte" — XXI program „Słuchamy i patrzymy"). 22.25 PKF. 22.35 Dziennik.

**Czwartek 28.I.1971**

8.15 Matematyka w szkole: „Wielościany foremne i grupy ich obrotów" cz. II. 8.45 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Dwór Zygmuntów". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Juliusz Słowacki". 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja zbioru zielonek na kiszonki" cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.00 „Rozmowy o książkach". 18.15 „Spotkanie z Gilbertem Becaud" — film. 18.30 TV Kurier Lubelski. 18.45 „Komputer i człowiek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych (Zakopane). 20.20 „Przyznaj się Stephens" — film tv ang. 21.10 „Polska Pieśń Artystyczna" (IV) — „Muzyka Polska Doby Pomoniuszkowskiej". 21.40 „Z wizytą w Polsce" — rep. 22.10 Dziennik.

**Piątek 29.I.1971**

10.00 „Przyznaj się Stephens" — film tv ang. 12.50 Przerwa. 14.50 „Fizyka dla nauczycieli": „Atomowa teoria budowy materii" cz. I. 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Za kierownicą". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Nowe piosenki radzieckie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych (Zakopane). 20.15 „Melodie i tańce Uzbekistanu" — film radz. 20.30 „Kraj". 21.10 „Teatr Telewizji na świecie": „Czerwony wóz" — widowisko TV Franc. 22.30 Dziennik.

**Sobota 30.I.1971**

10.45 „O życie świadka" — film fab. USA. 12.15 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „W dorzeczu Amazonki". 13.15 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 TV Kurs Rolniczy: „Warunki zoohigieniczne w pomieszczeniach inwentarskich". 15.45 Informacje dla służby rolnej. 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Jedzie pociąg z daleka". 17.45 III Zimowa Spartakiada Armii Zaprzyjaźnionych — Kronika Spartakiady (Zakopane). 18.30 „Z kamerą wśród zwierząt". 19.00 „Teatr, reżyser, aktor" — felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „O życie świadka" — film fab. USA. 21.50 Dziennik + Wiadomości sportowe oraz Kronika Mistrzostw Świata w sankach i Mistrzostw Europy w jeździe szybkiej na lodzie. 22.25 „Przebój 70".




**Piątek, 22 stycznia**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 8.40 Prawnik na wsi. 8.55 Film dla dzieci. 10.30 Nowiny. 15.00 Program dnia. 15.05 Nowiny. 15.15 Koncert. 15.45 Panorama nowin. 16.05 Festiwal republik radzieckich. Azerbejdżan. 17.30 W awangardzie walk klasowych. 18.20 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 21.00 Transmisja z Grodna. 21.20 Nowiny.

**Sobota, 23 stycznia**

8.15 Zdrowie. 8.45 Koncert. 9.30 Spotkania praktyczne. 10.00 Filmy animowane dla dzieci. 10.30 Artysta Ludowy BSRR A. Maryks. 10.55 Szkatułka muzyczna. 11.15 Przegląd międzynarodowy. 11.30 Uniwersytet Ludowy. 13.00 Hokej. „Spartak" (Moskwa) — CSKA. 15.25 Poezja — 71. 16.00 Nowiny. 16.05 W świecie zwierząt. 17.30 Ameryka. Przegląd polityczny. 18.00 Spektakl teatralny. 21.00 Siatkówka. CSKA — „Dynamo" (Moskwa).

**Niedziela, 24 stycznia**

8.00 Białe i czarne. 8.20 Film animowany dla dzieci. 8.40 Wiatr wędrowny. 9.30 Dla uczniów. 10.30 Mecz akrobatyczny. ZSRR — Polska. 11.30 Romantyk rewolucji. 12.00 Kiosk muzyczny. 12.30 Dla żołnierzy. 13.00 Transmisja z Grodna. 14.00 Panorama międzynarodowa. 14.30 Dla wsi. 15.00 Koncert. 15.30 Nasza pocztówka. 16.00 Nowiny. 16.05 Klub filmowy. 17.00 „Czapajew". Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Iraklij Andronikow opowiada. 20.50 Nowiny dnia. 21.00 Koncert symfoniczny. 22.00 Nowiny.

Усё яшчэ не магу адарвацца ад гэтай постаці-сімвалу: постаці дзядзькі Максіма са Старой Вёскі. Постаць гэтая месціць у сабе ўсю тыповасць традыцыйнага, вясковага жыцця. Таго жыцця, якое адыходзіць ужо ў беспаваротнае мінулае. У паводзінах дзядзькі Максіма ўвесь лірызм і ўвесь сум адыходзячага сялянскага свету.

Дзядзька Максім зараз на пенсіі. Аддаў зямлю гаспадарыць іншым, прадаў нават свайго неадлучнага каня. Жыве, бы той пустэльнік, сам з катом ды сабакаю на сваім хутары пад лесам. Большую частку дня праводзіць у хаце, седзячы ля печы і гладзячы шоўкавую поўсць коціка-мурлыкі. Часам ідзе на вёску пагутарыць з аднавяскоўцамі аб тым - аб сім, найчасцей аб справах дробных і малаважных.

Калісь, калі дзядзька Максім быў яшчэ гаспадаром, працаваў, як кажуць, бы той дзікі асёл. Араў, сеяў, плаціў падаткі, выконваў розныя абавязацельствы. Калі не хапала сіл, ездзіў у «гміну» і ў павет, пісаў заявы, скаргі, даходзіў свайго.

— Навошта вам тыя клопаты? — хвалявалася пражываўшая ў горадзе дачка. — Падаткі плаціць? На халеру? І так ад вас нічога не возьмуць.

Стары злаваўся. Не любіў такіх размоў. Любіў заўсёды парадак і лад. І быў заўсёды лаяльны ў адносінах да ўлады.

# ВЕЧНАЯ НЯДЗЕЛЯ

— Вы, бацька, без работы не маглі б, мусіць, жыць, — гаварыў часам падвыпіўшы Максімаў зяць. — Памерлі б з нуды, — іранізаваў. — Пераліваеце з пустога ў парожняе і больш нічога. І шукаеце, каб як найбольш мець работы.

А вось не праўда. Максім не шукаў сабе работы. Рабіў тое, што рабіць мусіў. Зараз, калі не мусіць — не робіць нічога. Ад часу, калі пазбыўся гаспадаркі, усё на яго панадворку застыла ў бязруху. Плуг ды бароны параскіданыя пад хлявом, ляжаць так, як іх паложылі пасля апошняга вяртання з поля, ужо год часу ніхто не замятаў у гумне току, ніхто не латае дзірак у страсе, у печцы павыкрушваліся цэглы, са сценаў сыплецца парахно — Максім глядзіць на ўсё спакойным абыякавым зрокам.

— Саромеліся б! — ганіць падчас кароткіх пабывак у Старой Вёсцы Максімава дачка. — Ужо леніцеся да той ступені, што не можаце каля сябе пальцам рушыць, каб вам хто нават на нос накапаў — сорам.

А Максім далей нічога. Далей сядзіць ля печы, гладзіць бліскучую поўсць коціка-мурлыкі і нічога не робіць.

Бо Максім не паддаўся існаванню ў часе. Яго светам быў заўсёды свет нязменных вартасцей — свет вечнасці. Максім заўсёды існаваў у вечнасці. І цяпер таксама — мае вечную нядзелю, вечнае свята, дзень адпачынку. Істота вечнасці ў тым, што ўсе яе моманты роўнавартасныя, ідэнтычныя, так што, ўласна кажучы, не з'яўляюцца момантамі часу, але безупынным працэсам без мінулага і будучыні. Свет дзядзькі Максіма з'яўляецца такім менавіта працэсам, і няма ў ім моманту, у які можна было б пачаць прыбіраць, парадкаваць, папраўляць. Праўда, калі быў гаспадаром, рабіў гэта, але толькі тады, калі быў час прыбірання, парадкавання, направак, замкнуты ў спрадвечным кругавароце штогадовых гаспадарскіх работ. Цяпер у Максіма няма такога часу. Ёсць час адпачынку, або — больш адпаведна — ёсць адпачынак, у якім няма аніякага часу.

Будзьма шчырымі — дзядзька Максім дажывае да апошніх сваіх дзён. Усё сваё жыццё не паддаваўся ён націску часу, не паддаецца яму і ў апошнія гады свайго жыцця. Усё на яго панадворку засталося так, як у дзень стварэння. Нічога тут нельга змяніць. Кожная змена выклікала б хаос у сусвеце. У Максімавым сусвеце. Выклікала б канец свету. Максім пазбег такіх змен. Пазбег увогуле часу.

Гісторыя праходзіла міма яго. Не скарыстаў ні яе дабрадзействаў, ні дабрадзействаў таго ўсяго, што нясе за сабою прагрэс, ні — тым больш — трывог і неспакою, якія нясе з сабою зменлівасць і час.

*Рыгор Паўлюк*

карэспандэнцыя з МІНСКА

# УЗОРЫ НА ЛЁДЗЕ

Мінскі Палац спорту вядомы не толькі ў Беларусі. Тут адбываюцца сур'ёзныя спартыўныя мерапрыемствы ўсесаюзнага і міжнароднага значэння. Аб адным з іх — мінулагоднім Кубку Савецкага Саюза па фігурнаму катанні — і расказвае фотарэпартаж Э. Трыгубовіча.



*На лёдзе алімпійскія чэмпіёны Людміла Белавусава і Алег Пратапопаў. І на гэты раз (хоць пасля ўпартай барацьбы з маладой маскоўскай парай) перамаглі вопытныя ленінградцы.*



*На лёдзе ўладальнік Кубка СССР маскоўскі школьнік (запамятайце яго прозвішча!) Сяргей Волгушаў.*



*Выступаюць сярэбраныя прызёры чэмпіяната Еўропы Тацяна Вайцюк і Вячэслаў Жыгалін. Яны таксама выйшлі пераможцамі ў танцавальных парах пасля захапляючага паядынка з маскоўскай парай.*



*Пераможца спаборніцтваў у адзіночным катанні Алена Аляксандрава.*



*Кубак СССР чакае свайго гаспадара.*



*Наймалодшыя ўдзельнікі спаборніцтва, шасцікласнікі з Таліна Н. Токарава і М. Сальнікаў.*

МАЛАДЗЁЖНЫ ФОРУМ

# У ЧАЛАВЕКА ЖЫЦЦЁ АДНО

У апошні час на пісьмо Галі адклікаліся людзі, якія ўжо даўно закончылі школу. Сёння друкуем парады Галі ад нашага чытача са Свібна ў Гданьскім павеце, які, праўда, падпісаўся, але з таго маглі мы адчытаць толькі першыя літары імя і прозвішча — Э. Ш.

«Галя! Ты пішаш, што хочаш зыйсці з дарогі і іншым не перашкаджаць. Адкуль ведаеш, што іншыя лепшыя ад цябе? У сярэднюю школу цябе прынялі. У другі клас ты перайшла. Значыць, ты не горшая ад іншых. Двойкі ў цябе па двух прадметах. У вучняў такое часам бывае, нават у найлепшых. Але гэта не абазначае, каб рабіць з жыццём канец. Жыццё адно ў цябе і яго шанаваць трэба. У жыцці бывае рознае — і радасці і непрыемнасці. І цябе спаткала цяпер непрыемнасць. Не варта рабіць з гэтага трагедыі.

А што рабіць?

Перш за ўсё захаваць спакой і зберагчы нервы, не падаць духам, а ўзяцца сур'ёзна за вучобу. Гэта цяжка і клапатліва, ведаю. Але чалавек, які не выкруціцца з клопату, не варты, каб аб ім клапаціліся.

Я ў 1966 г. скончыў сярэднюю школу. Таксама меў двойкі не раз і не адну. Аднак носа не вешаў. Сябры ўрокі зробяць і хто куды, а я за кніжкі. Мабыць, з паўгода мучыўся, але школу закончыў разам з усімі.

Найгорш з польскай у цябе. Трэба чытаць мастацкую літаратуру. Многа чытаць. Дабіраць кнігі, напісаныя чыстай літаратурнай мовай, без дыялектызмаў і жаргону. Як пішаш пісьмовыя працы, то старайся прымяняць кароткія сказы. Лягчэй і памылак менш. Добра дапамагае перапісванне. Вазьмі сшытак і з кнігі, якую чытаеш, перапісвай цікавыя і патрэбныя фрагменты. Я ў «агульняку» перапісаў цэлы падручнік „Historia Polski do r. 1792" Міхнік. Адразу дзве карысці. Польскай мове навучыўся і гісторыю, не чытаючы, умеў. Работы было многа, але куды дзенешся. Пісаў кожны дзень, як катаржнік. Многа дапамагала мне рашэнне красвордаў (кшыжувак). Там сустракаюцца апісанні розных слоў і моўных зваротаў. Рашаючы красворд, заглянеш і ў слоўнік, і ў энцыклапедыю. Прыглянешся, як данае слова пішацца, што яно абазначае і дзе яно прымяняецца. І паступова ўзбагачаеш запас слоў.

А хімія? Тут трэба знайсці свой індывідуальны спосаб вучобы. Па неарганічнай хіміі, па-мойму, хопіць ведаць тры рэчы:

1. кісларод — валентнасць (—2) = tlen dwuwartościowy
2. вадарод — валентнасць (+1) = wodór jednowartościowy
3. умець чытаць табліцу Мендзелеева (znać, a może nie tyle znać co umieć czytać okresowy układ pierwiastków).

Ведаючы гэтыя тры праўды, я з табліцы заўсёды адчытаю асноўныя ўласцівасці важнейшых элементаў (сярэдняя школа толькі імі і займаецца) і напішу ўраўненне рэакцыі. Лёгка і проста. Толькі я многа часу змарнаваў, каб адкрыць гэта.

Безумоўна, трэба ведаць элементарныя законы і паняцці. Трэба ўмець зрабіць селекцыю матэрыялу з падручніка. Памятаць толькі важнейшыя, істотныя праблемы, не зубрыць усяго ад пачатку да канца.

І я ўпэўнены, што зможаш і двойкі паправіць, і школу паспяхова закончыш. З твайго пісьма ў рэдакцыю вынікае, што інтэлігенцыі ў цябе хапае, што можаш бачыць істоту рэчы».

Э. Ш.

З ПРАБЛЕМ ПАВЯТОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў ГАЙНАЎЦЫ

# ДАСЯГНЕННІ І НЕДАХОПЫ

За кароткі час вельмі моцна змянілася апрацоўка зямлі на нашых вёсках. Да гэтых змен мы так ужо прывыклі, што не заўважаем нават, як з кожным годам узрастае механізацыя сельскагаспадарчых работ. Дзякуючы сельскагаспадарчай адукацыі на вёсках павялічваюцца веды гаспадароў, якія з кожным годам усё лепш і лепш выкарыстоўваюць навейшую агратэхніку і павялічваюць сельскагаспадарчую вытворчасць. Электрыфікацыя вёсак унесла ў іх жыццё многа новага і аблегчыла жыццё сялян.

У Гайнаўскім павеце ўжо ў 80% сялянскіх хат гараць электрычныя лямпачкі. Гаворачы аб Гайнаўскім павеце, неабходна падкрэсліць той факт, што змеліяравана там і загаспадарана 9.875 га сенажацяў, што праведзена дрэнацыя палёў на 3944 га, што пабудавана многа новых будынкаў і адрамантавана шмат дарог. І ўсё гэта мае карысны ўплыў на павелічэнне ўраджаяў і жывёлагадоўлі, а перш за ўсё на рост культуры і заможнасці вёсак.

Нягледзячы на гэтыя велізарныя дасягненні, сельская гаспадарка Гайнаўскага павета значна адстае ад іншых раёнаў Беластоцкага ваяводства. У 1969—1970 гадах сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур (жыта, пшаніцы, аўса, ячменю) быў ніжэйшы ад сярэдняга ваяводства на 2 цэнтнеры з аднаго гектара. Гайнаўшчына да гэтага часу мае адмоўны збожжавы баланс (гэта значыць больш спажывае, чым прадукуе). Колькасць буйнай рагатай жывёлы на 100 га зямельных угоддзяў таксама ніжэйшая ад агульнаваяводскай. Ды надоі малака ад аднае каровы таксама недастатковыя.

Чаму так дзеецца? Што адцягвае Гайнаўшчыну на апошнія месцы ў нашым ваяводстве па сельскагаспадарчай вытворчасці? Адказваем: у Гайнаўскім павеце 2158 гаспадароў на сваім полі дае яшчэ вельмі малыя даўкі мінеральных угнаенняў. Не перавышаюць яны 15 кг на 1 га. 2911 гаспадароў не вапнуе глебы. Шмат гаспадароў не абменьвае на лепшае насенны матэрыял паасобных культур. Абніжае ўраджай і той факт, што яшчэ 14.089 га зямлі знаходзіцца ў цераспалосіцы, якая не дае магчымасці карыстацца сучаснай агратэхнікай.

На Гайнаўшчыне шмат ужо змеліяраваных сенажацяў, але значная іх большасць — гэта балоты, якія трэба асушваць. А зноў далейшая меліярацыя звязана тут з рэгуляцыяй водных праблем. Гэта будзе мажліва толькі тады, калі расцягнуцца меліярацыйныя працы на зялёных угоддзях у даліне ракі Нарвы.

Адмоўны ўплыў мае на сельскую гаспадарку Гайнаўшчыны і той факт, што глыбока закаранелыя, старыя, традыцыйныя спосабы гаспадарання параўнальна вольна ўступаюць новым метадам.

Узняццё на вышэйшы ўзровень сельскай гаспадаркі Гайнаўшчыны, паспяховае ламанне ўсіх тармазоў, якія затрымліваюць тэмпы развіцця, усе справы, звязаныя з павелічэннем сельскагаспадарчай вытворчасці, шырока абмяркоўваліся на справаздачна-выбарчай канферэнцыі ПАРП у Гайнаўцы, якая адбылася 19-га снежня.

*М. Хмялеўскі*

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ КРЫНКАЎСКІ РАЁН

Назва, дадзеная ў загалоўку, не існуе ў ніякіх афіцыйных паперах. Гэтае названне стварылася ў пэўнай меры само па сабе, так як, скажам, раён Орлі, Кляшчэляў ці Нараўкі. Аднак названне раёнам сельскагаспадарчым мае свой глыбейшы сэнс. Не толькі называе, але і чымсьці адрознівае даную тэрыторыю ад іншых.

Што ж можна сказаць аб большасці вёсак і вёсачак прыкрынкаўскай зямлі ў мінулым. Гэта бедныя вёскі, занядбаныя сялібы гаспадароў, слабыя землі. Зрэшты, з зямлёю зараз як з жанчынай: учора яшчэ мела валасы на галаве чорныя, а сёння белыя, як снег. Адно пэўнае, што гаспадарыць на гэтых землях селяніну было вельмі цяжка. Амаль ва ўсіх вёсках панавала цераспалосіца, і не было чым карміць дабытку. Такімі былі, а ў памяці некаторых і зараз ёсць вёскі гэтага раёна.

Цяпер усё інакш. Тыя, што засталіся гаспадарыць на вёсках, сваёй працай стварылі крынкаўскі сельскагаспадарчы раён. Добра працуюць сельскагаспадарчыя гурткі. Загаспадарылі яны 1500 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі. Не толькі загаспадарылі ляжаўшую аблогам зямлю. Сельгасгурткі з Піражкоў, Паўночнага і Паўднёвага Астравоў, а таксама міжгуртковая машынная база (МБМ) у Крынках, дзякуючы разумнаму сучаснаму гаспадаранню атрымалі ў мінулым годзе плёны на 2 цэнтнеры вышэйшыя, чымсьці сярэдняя павятовая.

Гаспадары з такіх грамад, як Бомбля, Белавусы, Янова ці Разадранка, у сярэднім прымяняюць каля 100 кг NPK на адзін гектар угоддзяў. Але побач ёсць і такія ГРН, як Бабікі, Гураны, Крынкі ці Шудзялава, дзе на гектар прыпадае 40—47 кілаграмаў мінеральных угнаенняў. Аднак у сярэднім гаспадары крынкаўскага сельгасраёна высеялі ў мінулым гаспадарчым годзе па 63 кг NPK.

Што гэта дало? Перш за ўсё абрадзіла тут сена. 70 цэнтнераў сена з першага пакосу тут яшчэ ніхто і ніколі не меў. Абрадзіла бульба, прапашныя расліны, агародніна. Пазапрошлы гаспадарчы год не быў літасцівы таксама і для тутэйшых гаспадароў, а ўсё ж колькасць жывёлагадоўлі павялічылася ў мінулым годзе на 1,9 прац., а свіней на 5 працэнтаў. Задавальняючай была кантрактацыя збожжа і яго скуп.

Чаму падкрынкаўскія гаспадары Сакольшчыны змаглі выйсці з вяковага занядбання? Толькі за мінулую зіму электрыфікавана тут 15 вёсак. А ў сувязі з тым колькі ж паявілася электрычных маторчыкаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, а нават халадзільнікаў. Падрыхтавана да электрыфікацыі яшчэ 13 вёсак, а ў некаторых з іх ужо праведзена электрычнасць. Прымаючы пад увагу гэтыя лікі, амаль кожны гаспадар гэтага раёна неўзабаве будзе карыстацца электрычнай энергіяй.

Як мы ўжо гаварылі, зморай тутэйшых гаспадароў была цераспалосіца. Камасацыйныя працы закончаны ў больш як дваццаці вёсках гэтага раёна. Больш чым 4.000 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі выдзелена пры гэтым у вялікія комплексы, якія будуць загаспадарваць сельгасгурткі. Чатыры тысячы гектараў зямлі! Можна сабе не ўяўляць колькі з гэтага будзе збожжа і кармавых раслін, але напэўна вядома, што многа.

Ці ёсць чым апрацоўваць зямлю? Напэўна прыгадзілася б тут шмат машын, якія прадукуем, а таксама тых, якія гаспадары бачаць у тэлевізіі ці друку, як прататыпы. Але гляньма на тое, што ёсць у гэтым раёне. Сельгасгурткі маюць 65 трактарных камплектаў, 34 малацілкі, 20 сеўнікаў да вапна і мінеральных угнаенняў. З 12 камбайнаў, якія мае цэлы Сакольскі павет, 11 працуе ў крынкаўскім раёне.

І што тут многа гаварыць! Каб мець карысць і даход з гаспадаркі, трэба гаспадарыць так, як гэта робяць, напрыклад, Фёдар Рысь з Астраўка, Мікалай Белабокі з Новага Тшцянага, Мікола Стэльмашук з Нетупы ці Уладзімір Сакалоўскі з Сухініч.

*А. Лабановіч*



Пачатак на стар. 1

## „ВЫСОКА ЦЭНІМ БГКТ“
## —кажа сакратар Лазоўскі

— У самой Гайнаўцы ёсць некалькі буйных прамысловых прадпрыемстваў. Ці сярод рабочага калектыву гэтых заводаў БГКТ праводзіць нейкую дзейнасць?

— На жаль, нейкай шырэйшай дзейнасці БГКТ на прамысловых прадпрыемствах я не заўважыў. Аднак не бачу ніякіх перашкод, каб праўленне аддзела БГКТ, каб актывісты таварыства дагаварыліся аб супрацоўніцтве з прафсаюзнымі і маладзёжнымі арганізацыямі і кіраўніцтвам рабочага самаўпраўлення. Кожная разумная прапанова знойдзе з нашага боку поўную падтрымку і дапамогу. Вось ведаю, што БГКТ хоча наладзіць новы музей разам са скансенам, што гайнаўскі аддзел хацеў бы мець вялікі народны харавы і танцавальны калектыў. Гэта толькі нас цешыць. Усялякая дзейнасць актывізуе людзей, а нам, асабліва цяпер, трэба менавіта вельмі актыўных грамадзян, якія не шкадавалі б свайго часу і сваіх сіл дзеля лепшай будучыні.

— Шчыра вам дзякую.

— Я таксама хацеў бы шчыра падзякаваць усім дзеячам таварыства і яго членам за іх грамадскую працу, за іх уздзеянне на грамадскае і гаспадарчае развіццё Гайнаўшчыны. З нагоды юбілею БГКТ жадаю ўсім і сабе, каб мы яшчэ супольна адсвяткавалі не адзін юбілей Беларускага таварыства.

*Інтэрв'ю правёў*
*В. Рудчык*

Пачатак на стар. 1

## У грамадах па-рознаму

мінеральныя ўгнаенні на лугі. У 1970 годзе ў грамадзе Юшкаў Груд у аб'екце Альшанка пасеяны мінеральныя ўгнаенні калектыўна на ўсе сенажаці па чарзе.

Варта адзначыць, што ў грамадзе Ялоўка добра развіваецца гадоўля свіней. Закантрактавана тут у 1970 годзе 1737 штук свіней, а ўжо за тры гады мінулага года прададзена дзяржаве 1795 штук свіней.

Перавыкананы таксама план кантрактаванага быдла.

Жыхары разглядаемых грамад актыўныя ў грамадскіх чынах. На працягу двух апошніх гадоў жыхары Ялоўскай грамады пабудавалі дарог, дарожных пропускаў і мастоў на паўмільёна злотых. Жыхары Юшкавага Груда, а перш за ўсё з вёсак Кухмы, Бяндзюга, Боўтрыкі і Аднога, пабудавалі і адрамантавалі грамадскім чынам дзесяткі кіламетраў дарог. Працавалі яны таксама пры пабудове розных аб'ектаў у сваіх вёсках і ваколіцах.

*Янка Цялушэцкі*

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

## ПРАПАВЕДНІЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

Назва жанру паходзіць ад пропаведзі. У сваёй ідэйнай накіраванасці прапаведніцкая літаратура супадала з літаратурай агіяграфічнай. Яе мэта заключалася ў пашырэнні хрысціянскіх ідэй сярод усіх класаў тагачаснай грамадскасці. Розніцы паміж гэтымі жанрамі праяўляюцца ў тым, што пропаведзь датычыла шырэйшага кола праблем, чым агіяграфія. Не абмяжоўвалася яна да паказу жыцця аднаго царкоўнага дзеяча, але адклікалася да жыцця ўсёй царквы, а таксама да спраў агульнадзяржаўных. Аб розніцы можам гаварыць і ў тым сэнсе, што пропаведзь мела перш за ўсё вусную форму і толькі некаторыя яе помнікі былі запісаны, тады, калі ўсе помнікі жыццёвай літаратуры выступілі ў пісьмовай форме.

Пропаведзь у Кіеўскай Русі падзялялася на звычайную і ўрачыстую. Прадстаўнікамі звычайнай пропаведзі былі Феадосій Пячэрскі і Лука Жыдзята. Звычайная пропаведзь была прызначана для шырокіх колаў неадукаванага грамадства. Адсутнічалі ў ёй паэтычныя прыёмы. З гэтай прычыны звычайная пропаведзь не мела літаратурнай вартасці.

Прадстаўнікамі ўрачыстай пропаведзі былі Іларыён, Клімен Смаляціч, Кірыл Тураўскі. Урачыстая пропаведзь, захоўваючы рэлігійную праблематыку, прадстаўляе значную вартасць у галіне літаратурнай формы. Нямала ў ёй паэтычных прыёмаў: метафорыкі, параўнанняў, іншасказальнасці, драматычных элементаў, якія ўзмацнялі эфекты і тым самым мацней дзейнічалі на ўяўленне тагачаснага слухача і чытача.

Іларыён вядомы як аўтар «Слова аб законе і благадаці», жыў і дзейнічаў у XI стагоддзі. Іларыён быў, несумненна, удзячны Візантыі за прыняты адтуль рэлігійны абрад, але непрыхільна глядзеў на візантыйскае ўмяшацельства ў справы рускай дзяржавы. І таму Іларыён у сваіх пропаведзях славіў усё тое, што было мясцовым, патрыятычным, рускім. Яго крытыцызм у адносінах да Візантыі быў формай самаабароны. Іларыён быў першым мітрапалітам з рускіх. Да яго мітрапалітамі ў Русі былі толькі стаўленікі Візантыі — грэкі. Яраслаў Мудры, імкнучыся да поўнай незалежнасці адзінства дзяржавы, палітыкі і рэлігіі, прычыніўся да вызначэння Іларыёна на рускага мітрапаліта. Іларыён умеў быць удзячным. Славіў у сваіх пропаведзях усіх рускіх князёў. Нават тых, якія былі язычнікамі. Рабіў гэта таму, што ў яго перакананні ўсе тыя, хто будаваў веліч рускай дзяржавы, заслугоўвалі на пахвалу. Асабліва моцна славіў ён аднак «князя-сонейка» — Уладзіміра, які ахрысціў Русь. Для Іларыёна дзяржаўныя і рэлігійныя інтарэсы былі неразздзельнымі. Прапагандаванне адзінства гэтых інтарэсаў з'яўляецца сутнасцю пропаведзяў гэтага дзеяча.

Клімен Смаляціч, выхадзец са Смаленшчыны, дзейнічаў у XII стагоддзі. З волі князя Ізаслава і сабора рускіх епіскапаў стаў ён другім мітрапалітам з рускіх. Зразумела, што факт гэты выклікаў незадавальненне з боку Візантыі. Супраць Клімента ўзнялася моцная ўнутраная царкоўная апазіцыя. Хто ведае, ці апазіцыю гэтую не інспіравала Візантыя. Прэтэнзіі, кіраваныя ў адрас Смаляціча, мелі філасофскі і этычны характар. Праціўнікі закідалі мітрапаліту выкарыстоўванне язычаскіх філасафаў: Гамера, Арыстоцеля, Платона, імкненне да асабістай славы, неабыякавасць да матэрыяльнай карысці і багацця.

Адзіны захаваны твор Смаляціча «Пасланіе смаленскаму прэсвітру Фаме, істалкованае мніхом Афанасіем» з'яўляецца формай абароны перад гэтымі закідамі. Смаляціч рашуча абвяргае ўсе закіды. Ён прызнаецца да выкарыстоўвання старажытных філасафаў, але даводзіць, што рабіў гэта толькі тады, калі спасылкі на іх маглі служыць узвелічэнню хрысціянскіх ідэй. Смаляціч рашуча адкідае закід аб імкненні да славы, гаворачы, што прыняў званне мітрапаліта толькі з волі князя і духавенства. З вялікім пафасам адкідае таксама сцвярджэнні праціўнікаў аб імкненні да багацця. Людзі, якія імкнуцца да матэрыяльнай карысці, гаворыць Смаляціч, купляюць нівы, лясы і вёскі, але адзіным маім багаццем ёсць пяць локцяў зямлі, прызначаных на магілу, якую я наведваю з малітваю па некалькі разоў у дзень. «Пасланіе» Смаляціча каштоўнае тым, што характарызуе атмасферу тагачаснага царкоўнага жыцця, у якім нямала было канфліктаў, зайздрасці і ўнутранай барацьбы. У сэнсе фармальным «Пасланіе» займае пераходную пазіцыю паміж прапаведніцкай і палемічнай літарату-

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

## 8. ПОЛЬШЧА І ЯЕ ГРАНІЦЫ

Праблема Польшчы была даволі грунтоўна разгледжана толькі на апошнім пленарным пасяджэнні канферэнцыі, 1 снежня. Першым гэту тэму закрануў Рузвельт. Ён выказаў надзею, што Савецкі ўрад зможа пачаць перагаворы і аднавіць свае адносіны з польскім эміграцыйным урадам, які знаходзіўся ў Лондане.

У той час у Савецкага Саюза былі ўсе падставы адносіцца з недавер'ем да эмігранцкага польскага ўрада, паколькі на працягу раду гадоў ён вёў шалёную антысавецкую кампанію. Іменна гэта варожасць польскага эмігранцкага ўрада і прымусіла Маскву парваць з ім адносіны, якія былі адноўлены неўзабаве пасля нападзення гітлераўскай Германіі на нашу краіну. Натуральна, што Сталін, адказваючы Рузвельту, перш за ўсё звярнуў увагу на тое, што некаторыя агенты польскага эмігранцкага ўрада, якія знаходзяцца ў Польшчы, звязаны з немцамі.

— Яны забіваюць партызан, — з сумам сказаў Сталін. — Вы не можаце сабе ўявіць, што яны там робяць.

— Гэта вялікае пытанне, — умяшаўся Чэрчыль. — Мы аб'явілі вайну Германіі з-за таго, што яна напала на Польшчу. У свой час мяне здзівіла, што Чэмберлен не пачаў весці барацьбу за чэхаў у Мюнхене, але раптам у красавіку 1939 года даў гарантыю Польшчы. Але адначасова я быў гэтак жа і абрадаван гэтай акалічнасцю. Дзеля Польшчы і ў выкананне нашага абяцання мы, хоць і не былі падрыхтаваны, за выключэннем нашых ваенна-марскіх сіл, аб'явілі вайну Германіі і адыгралі вялікую ролю ў тым, каб прымусіць Францыю ўступіць у вайну. Францыя пацярпела крах, але мы дзякуючы нашаму астраўному становішчу аказаліся актыўнымі байцамі. Мы надаём вялікае значэнне прычыне, па якой уступілі ў вайну. Я разумею гістарычную розніцу паміж нашым і рускім пунктамі гледжання адносна Польшчы. Але ў нас Польшчы ўдзяляецца вялікая ўвага, бо нападзенне на Польшчу прымусіла нас зрабіць цяперашнія намаганні. Я гэтак жа добра разумеў становішча Расіі ў пачатку вайны і, прымаючы пад увагу нашу слабасць

*(Працяг на стар. 6)*

# СТАРОНКІ ДРУЖБЫ

Новы зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў «Старонкі літаратурных сувязей», выд. у Мінску ў 1970 г., складаецца з чатырох артыкулаў паасобных аўтараў: В. І. Гапавай — «Максім Танк — перакладчык славянскіх паэтаў», А. І. Мальдзіса — «Творчыя ўзаемасувязі беларускай і літоўскай літаратур у савецкі час», У. М. Казбярука — «Плённыя кантакты», Э. М. Мартынавай — «Некаторыя рысы блізкасці і своеасаблівасці развіцця беларускай і ўкраінскай літаратур пачатку XX ст.» Прынамсі два з гэтых артыкулаў з'яўляюцца для нас асабліва цікавымі, паколькі іх аўтары (В. І. Гапава і У. М. Казбярук) разважаюць непасрэдна аб беларуска-польскіх кантактах.

Пытанні, якія ўзнімаюць аўтары кнігі, усё часцей можна сустрэць у беларускім літаратуразнаўстве. З'яўляюцца яны важнымі і надзённымі. Вядома, што на літаратурны працэс зазвычай уплывае цэлы комплекс унутраных і знешніх фактараў. «Паколькі не існуе ізаляваных літаратур, няма і літаратурных плыняў, напрамкаў і асобных аўтараў, якія ў той ці іншай меры не адчувалі б уплыву іншых літаратур, — піша Э. М. Мартынава».

Прачытаўшы ў кнізе артыкул В. І. Гапавай, наш чытач, для якога М. Танк і так з'яўляецца надзвычай блізкі як паэт і адзін з арганізатараў камуністычнага падполля ў Заходняй Беларусі, набярэ пераканання, што паэзія М. Танка і яго мэтанакіраваная перакладчыцкая дзейнасць улівалася «магутным струменем у рэчышча двухбаковага працэсу ўзаемадзеяння беларускай і сусветнай літаратур». Амаль адразу, сцвярджае аўтар, у перакладчыцкай дзейнасці М. Танка вызначыліся дзве плыні: традыцыйная (пераклады рускай і польскай класікі —Міцкевіча, Пушкіна, Славацкага) і так званая «авангардная», якая парывала са старымі паэтычнымі канонамі, стварала новую паэтычную мову — на пагранічны «празаічнай». Танк прыступае да перакладаў Маякоўскага, Тувіма, Пшыбося, а ў 60-тыя гады — новага пакалення польскіх паэтаў: Ружэвіча, Шымборскай і іншых.

У сваёй творчасці М. Танк заўсёды імкнуўся да наватарства, і польскі рамантызм з'явіўся для яго адной з эстэтычных крыніц. Дзякуючы яго перакладчыцкай дзейнасці вусная паэтычная творчасць беларусаў, якая адбілася ў творчасці вялікага польскага рамантыка Адама Міцкевіча, зноў вярталася да сучаснага беларускага чытача.

У кнізе «Старонкі літаратурных сувязей» наш зямляк, выхадзец з Беластоцкай зямлі, У. І. Казбярук разважае над пытаннем беларуска-польскіх літаратурных сувязей у XIX стагоддзі. Сцвярджае цікавы факт, што ў XIX стаг. частка польскай інтэлігенцыі кроўна спалучала ў сабе прывязанасць не толькі да ўсяго польскага, але і да беларускага, што не магла падчас размежаваць, хто яна. «Я беларуска — ад нараджэння, а па паходжанню — полька...» пісала Ядвіга Ціхінская Аляксандру Ельскаму.

Падсумоўваючы некаторыя вядомыя ўжо факты, аўтар высоўвае меркаванне, ці не Кастусь Каліноўскі з'яўляўся аўтарам ці прынамсі выдаўцом падобнай па зместу да «Мужыцкай праўды» вершаванай газеты «Гуторка двух суседоў». Аддае таксама даніну дзейнасці Аляксандра Ельскага, які, хаця не быў рэвалюцыйным дэмакратам і варожа адносіўся да рэвалюцыйных выступленняў народных мас, у XIX стаг. прынёс шмат карысці сваёй дзейнасцю па вывучэнню гісторыі, этнаграфіі, археалогіі Беларусі, беларускай літаратуры і мовы, па збіранню помнікаў беларускай пісьменнасці і фальклорных твораў. Пачынаючы з 1864 года Ельскі збіраў архіўныя матэрыялы, рукапісы, рэдкія кнігі, іконы, старыя манеты і г.д., а таксама запісваў павер'і. У асяроддзі польскай інтэлігенцыі з ім лічыліся як з дасканалым даследчыкам культуры, гісторыі і літаратуры беларускага народа, народа, які ён горача любіў і меў да яго глыбокае перакананне: «Калі гутарка ідзе пра Міцкевіча і яго сціплае роднае гняздо, — пісаў А. Ельскі, — мімаволі ўсплывае пытанне: чаму гэта столькі карыфеяў навукі і нашага мастацтва, чаму такіх... Касцюшкаў..., Манюшкаў, Міцкевічаў, Чачотаў, Кандратовічаў, Занаў..., Крашэўскіх і столькі-столькі іншых выгадавала адна мясцовасць? Не можа не быць гэта глеба ўрадлівая, калі родзіць такі буйны плён!

Бо старажытны ж гэты народ, які займае шырокія прасторы: ад вытокаў Дняпра да Буга і Нарві, ад Віліі да Прыпяці — гняздо старажытнай славяншчыны, краіна герояў, гусляроў... Не дарма ж пра гэту родную зямлю, пачынаючы ад Баяна аж да нашага часу столькі разоў з захапленнем пялі нашы песняры, убіраючы з народных песень, легенд і паданняў прарочае натхненне».

АДА ЧЭЧУГА

рай, і таму твор гэты можа быць аднесены да палемічнага жанра.

Трэцім выдатным прапаведнікам Кіеўскай Русі быў Кірыл Тураўскі, які жыў у XII стагоддзі. Вядомы ён як аўтар вялікага цыкла «Слоў», пісаных з нагоды вялікадня і посту. Абмінаючы традыцыйную рэлігійную тэматыку яго пропаведзі, варта звярнуць увагу на новыя элементы ў форме яго твораў. Тураўскі шырока выкарыстаў з'явы прыроды, прыраўноўваючы гэтыя з'явы да грамадскіх спраў або чалавечых настрояў. Часта атоесамліваў ён вецер з грэшнымі помысламі, а сонечныя праменні з добрымі хрысціянскімі ідэямі. Другой фармальнай навізной «Слоў» былі драматычныя элементы. Тураўскі часта карыстаўся дыялагамі. Прадстаўляў ён размову асоб з супрацьлеглымі поглядамі і думкамі.

Варта таксама адзначыць, што Тураўскі ў некаторых пропаведзях рашуча выступаў супраць народных абрадаў і песень. Гэты аскетычны дзеяч бачыў у абрадах праявы язычаскіх культаў і прывычак. Вораг народнай жыццерадаснасці пагражаў удзельнікам абрадаў божымі помстамі, карамі і пякельнымі мукамі. Між іншым, і ў гэтым факце знаходзім пацвярджэнне тэзіса аб тым, што прапаведніцкая літаратура таксама як агіяграфія была зброяй у руках тагачаснай царквы.



*На заводзе «Спомаш у Старасельцах.*
*Фота Цаф — Сянько*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцікі або шнурочак.*

БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" — ЯНКА МАЎР — ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ



За яго і ўзяліся. Але як ні стараліся, як ні соваліся наперад, — нідзе не маглі выйсці.

— Якім жа чынам той чалавек прабраўся? — дзівіліся хлопцы.

— А можа, гэты недакурак якім-небудзь іншым спосабам трапіў сюды? — выказаў думку Мірон.

— Можа, варона на хвасце прынесла? — насмешліва сказаў Віктар.

— Чаго смяяцца? — сур'ёзна адказаў Мірон. — Калі ніякага іншага тлумачэння няма, дык можна падумаць, што якая-небудзь птушка несла ў сваё гняздо ды згубіла. І гэтае дапушчэнне зусім не горшае за тое, што вось нейкі чалавек чамусьці караскаўся праз балота, рызыкаваў жыццём, убачыў жыллё людзей, пастаяў, пакурыў і паваloкся назад.

Разважанні Мірона таксама мелі рацыю. Віктар зусім збянтэжыўся.

— Няўжо ж прыйдзецца ўсур'ёз згадзіцца, што гэты недакурак сапраўды варона на хвасце прынесла? — сказаў ён.

— Я гэтага не кажу. Я толькі зазначаю, што і такое тлумачэнне не горшае за іншыя. Так або інакш, а трэба рыхтавацца да жыцця тут, прынамсі, на некалькі тыдняў. Улетку, безумоўна, дзе-небудзь падсохне настолькі, каб выбрацца.

— Тады лепш рабіць кладкі. За гэты час можна накідаць галля і дрэў гэтулькі, што па іх лёгка будзе прапаўзці.

— А гэта думка добрая! — ажывіўся Мірон. — Гэтак і пачнём рабіць. Нават можна ў баброў пазычыць дрэвы, бо самі мы не здолеем так іх ссячы.

План гэты спадабаўся абодвум і значна супакоіў іх. Гэткім чынам яны самі маглі дзейнічаць і набліжаць сваё выратаванне, а не сядзець, чакаючы, пакуль прырода зробіць ласку і падсушыць балота. Адной думкі аб такой магчымасці было досыць, каб энергія ў хлопцаў падвоілася. Віктар адразу ж загарэўся і пачаў марыць:

— Калі мы кожны дзень будзем падкідаць галля, то можна зрабіць такую грэблю, што па ёй нават ехаць можна будзе.

— Не надта захапляйся, — сказаў Мірон. — Як толькі станеш, то твая грэбля і праваліцца.

— А я стаяць не буду, — храбрыўся Віктар. — Абы толькі дакрануцца нагой. Не паспее галіна падацца, як нага мая пераскочыць далей.

Разважанні былі слушныя. Хлопцы прыгадалі, як ім даводзілася перабягаць раку па тонкім лёдзе, які трашчаў пад нагамі, і, напэўна, не вытрымаў бы чалавека, каб той спыніўся на месцы. Гэтак сама можна перабягаць па вадзе па дошках, хоць стаяць на іх нельга.

Калі ўсё абгаварылі і цвёрда пастанавілі зараз жа прыняцца за работу, Мірон спыніўся, паківаў галавой і сказаў:



## XV

**Бабровая гаспадарка. — Неспадзяваная небяспека. — Збаўцы-ворагі. — Чужыя гаспадары. — Рэшткі ад чужога стала. — Сур'ёзная памылка.**

Такім чынам высветлілася, што ў бліжэйшыя дні няма чаго спадзявацца на вызваленне. Некалькі часу яны маглі пра гэта не думаць. А запас спажывы дазваляў ім дні са два адпачыць. Гэтае становішча скарыстаў Віктар і прапанаваў, не адкладваючы, на другі ж дзень, ісці наглядаць бабpoў.

— Толькі, брат, запасіся цярплівасцю! — папярэдзіў ён, — бо прыйдзецца сядзець і не варушыцца, можа, некалькі гадзін. Абяцаеш?

— Ды ўжо ж! — адказаў Мірон, бо ён і сам цікавіўся не менш за свайго таварыша.

Падышлі яны так ціха, што нават не спудзілі бабра, які нешта майстраваў на сваім месцы, бабёр даў нырца і знік.

Хутка з вады зноў высунулася тупая, круглая галава. Праз хвіліну — другая, трэцяя. Двое падышлі да пачатага дрэва і ўзяліся за працу. Якія яны былі смешныя, нязграбныя! Хвост шырокі, нібы рыдлёўка і пакрыты не поўсцю, а нейкай луской. Пальцы задніх ног злучаны плеўкай, як у гусей. На пярэдніх жа пальцах плеўкі няма, затое кіпцюры вострыя, а на другім пальцы нават падвойныя. Густая буравагая поўсць аж блішчыць на сонцы.

Двое «дрывасекаў» сталі з абодвух бакоў на заднія лапы, абапёрліся яшчэ на хвасты і ўзяліся за працу так, што толькі трэскі пасыпаліся. Трэці зноў палез на сваю хату, чацвёрты пачаў цягнуць з берага дрэўца таўшчынёю з руку чалавека. Цяжкая праца! Таргане крыху — і адпачывае. Яму на дапамогу прыйшоў новы таварыш.

З захапленнем наглядалі хлопцы гэты малюнак.

Тым часам дрэва хіснулася, храснула. «Дрывасекі» адскочылі ўбок, а рэшта бабpoў кінулася ў ваду.

— Слухай! Яны ж могуць прыстукнуць нас! — з жахам прашаптаў Мірон.

Віктар і сам гэтага баяўся. Ён пільна прыглядаўся, у які бок думае валіцца дрэва, але пакуль што пазнаць было нельга. Дрэва патрэсквала і хісталася. Бабры падскочаць, грызануць і зноў адскочаць. Але падгрызалі яны з боку вады, або, лепш сказаць, грэблі.

— Яно павінна туды паваліцца, — прашаптаў Віктар.

Аднак поўнай упэўненасці ў гэтым не магло быць. Хлопцы рызыкавалі. Толькі вострая цікавасць і запал утрымлівалі іх на месцы.

Вось ужо дрэва хіліцца на той бок. Храснула апошні раз і з страшэнным трэскам шаснула на грэблю. Ад гэтага шуму нават «дрывасекі» схаваліся ў ваду.

— Але ж малайцы! — з захапленнем прамовіў Мірон. — Такая драбната, а гэткае дрэва звалілі!

# ТРЫБУНА чытачоў

## СЯБРОЎСКАЯ ДАПАМОГА

Чацвёртыя класы ліцэяў чакаюць матуральныя экзамены. У сувязі з гэтым вучні намагаюцца, каб як найлепш да іх падрыхтавацца. У нашым ліцэі моладзь чацвертых класаў збіраецца часта пасля ўрокаў і паўтарае пройдзены матэрыял, давучваецца. Моладзь IVa класа прысвячае шмат часу паўтарэнню матэматыкі. Калі што каму не выходзіць у рашэнні тых ці іншых задач, калі хто чаго не разумее, звяртаецца ён да Ліды Асіпюк, якая з'яўляецца добрай вучаніцай і заўсёды пасяброўску дапаможа.

*Люба Ярашэвіч, Бельскі бел. ліцэй*

## ДОБРААХВОТНЫЯ БРЫГАДЫ ПРАЦЫ

29-га снежня ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі падсумавала дзейнасць добраахвотных рабочых брыгад (ОГП) з паасобных паветаў. На першае месца па колькасці ОГП выйшаў Сямяціцкі павет, у якім ЗМВ арганізаваў 150 добраахвотных рабочых брыгад. Найбольш уложана там працы ў рамонт дарог і пасадку дэкаратыўных дрэў. Дапамаглі таксама ЗМВ-оўцы ў працы на гаспадарцы старым людзям.

Сувальскі павет заняў другое месца. Там 112 ОГП выконвала ў мінулым годзе многа розных прац грамадскім чынам. Беластоцкі павет меў 82 ОГП і заняў шостае месца. Слаба выпалі Бельскі і Гайнаўскі паветы, а найгорш Ломжынскі, дзе працавала толькі 2 ОГП.

*Рыгор Лісавец, Скраблякі*

## СЦЯПАН ЛІСАВЕЦ

У вёсцы Скраблякі (Беластоцкі павет) солтысам з'яўляецца Сцяпан Лісавец. Добра ён служыць сваім жыхарам. Дзякуючы яго арганізатарскай дзейнасці ў вёсцы пабудавалі брукаваную дарогу. Нямала папрацаваў ён падчас электрыфікацыі і камасацыі зямлі. Добры з яго таксама гаспадар. Шмат ён кантрактуе і збожжа і кормнікаў. У ваколіцах Скраблякоў добра родзіць грэчка і сырадэля. І Сцяпан Лісавец у мінулым годзе завёз на пункт скупу 6 цэнтнераў кантрактаванай грэчкі і 6 цэнтнераў сырадэлі.

*Р. Л.*

## КЛУБ СЕЛЯНІНА

7-га студзеня мінуў год ад таго часу, калі ў Пяньках распачаў працу клуб селяніна. Прыходзяць сюды жыхары нашай вёскі на тэлевізійныя перадачы, пайграць у шашкі, пачытаць газету, купляць дробныя тавары. Кожны месяц кіраўнік клуба Аляксандр Бельскі змяняе сценгазету. У гэтым месяцы сценгазета прысвечана 26-ай гадавіне вызвалення Варшавы. Нядаўна моладзь ЗМВ упрыгожыла клуб, у якім будуць адбывацца вечарыны і карнавальныя забавы. Варта падкрэсліць і тое, што клуб агароджаны драцяной сеткай.

*К. Л. Пянькі*

## СПРАВАЗДАЧНЫ СХОД

Нядаўна ў Чыжах адбыўся справаздачны сход воднай суполкі. Прысутныя выслухалі справаздачу, а пасля зацвердзілі бюджэт на 1971 год. Складае ён суму 180 000 зл. Пастаноўлена, што за кожны гектар змеліяраваных або здрынаваных зямельных угоддзяў гаспадар будзе плаціць па 40 злотых на кансервацыю равоў і будову водных пропускаў. Удзельнікі сходу прызналі 3000 зл узнагароды старшыні воднай суполкі ў Чыжах Міхасю Кандрацюку, а рабочым, якія ачышчаюць меліярацыйныя равы, па 500 зл. Быў звольнены ад абавязкаў члена рэвізійнай камісіі Лявон Артэмюк і назначаны на яго месца Васіль Аляксеюк.

*Я. М., Гайнаўскі павет*




Дарагое Сэрцайка!

Вучуся я ў сярэдняй школе. Тут я сустрэў Люду, якая з'яўляецца вучаніцай нашага класа. Мне Люда вельмі спадабалася. Не ведаю толькі, ці я ёй спадабаўся. Яна часта ў мяне просіць сшыткі, каб паглядзець, як я рашыў задачу. Просіць мяне, каб я ёй дапамог што-небудзь зрабіць. Часта з Людай ідзем да цягніка, але аб каханні нічога не гаворым. Калі былі канікулы, я выслаў ёй паштоўку з віншаваннямі, але не ведаю, як яна яе ўспрыняла, бо нічога аб гэтым мне не спамінае.

Парай, Сэрцайка, як мне даведацца, ці Люда кахае мяне ці не.

*Ваня з Гайнаўшчыны*

Ваня! І вельмі добра, што калі вы ідзіцё да цягніка, дык нічога аб каханні не гаворыце. Вы ж вучні адной школы, аднаго класа, напэўна ж маеце вельмі многа супольных цікавых тэм, бо да кахання дык вы яшчэ замаладыя, вы ж вучні. Але ўсё ж могуць быць між вамі сімпатычныя, сяброўскія адносіны. Таму старайся дапамагчы Людзе ў навуцы, бо як пішаш, відаць, некаторыя справы прыходзяць ёй з цяжкасцю. Іменна ў дапамозе сваёй для Люды (а не ў размовах аб каханні) вывіш сваю сімпатыю да сваёй сяброўкі. Напэўна, і ты Людзе падабаешся, бо інакш не звярталася б да цябе за дапамогай, калі ў класе ёсць і іншыя сябры. Старайся так, каб і сімпатыя, якую ты называеш каханнем, і сяброўства ішлі разам у пары, гэта табе і тваёй сяброўцы будзе карысна. Старайцеся толькі добра вучыцца. А што датычыць паштоўкі, дык проста пры аказіі запытай у Люды, ці атрымала яе і ці ёй спадабалася.

Жадаю добрых вынікаў у навуцы

*Сэрцайка*

## У ГАЙНАЎСКІМ РЭСТАРАНЕ

Аднаго разу, калі я быў са сваімі сябрамі ў Гайнаўцы, пайшлі мы ў тутэйшы рэстаран, каб паесці чаго-небудзь цёплага.

Усе мы прыехалі сюды да лекара, каб праверыў стан нашага здароўя. Было холадна, цёплай стравы захацелася ўсім. Зайшоўшы, мы ўсе распрануліся, занялі месцы за адным столікам і чакалі толькі афіцыянта, каб падышоў да нас і спытаў, што падаць.

Відавочна, афіцыянт нас яшчэ ўперад заўважыў, бо прынёс нам па бутэльцы піва, якога мы не жадалі. Адзін з маіх сяброў заказаў штосьці цёплае. Афіцыянт, нічога не гаворачы, прынёс нам кожнаму па талерцы рэдзькі са смятанай.

Мы ўсе хорам адказалі, што гэтага не хочам і не любім такіх страў, прасілі б што-небудзь гарачага пад'есці.

Абслугоўваючы звярнуўся да нас шэптам: можа па 100 грам? Мы ўсе абурыліся, што прыехалі да лекара на матацыклах і не хочам гарэлкі зусім, бо на няшчасце і па 100 грам можа пашкодзіць, і на каго тады бяда спадзе. Афіцыянт нас не паслухаўся і прынёс нам па тых 100 грам, а да гарэлкі яшчэ па кусочку мяса, а калі папрасілі хлеба да яго, нічога не гаворачы — засмяяўся.

Мы ўсе сядзелі, незадаволеныя гэтым ўсім, і чакалі толькі, што будзе далей. Праз некалькі хвілін прыходзіць да нас той самы афіцыянт з квіточкам і жадае заплаты. Мы, праўда, заплацілі належнасць і думалі, што ўжо ўсё, але ён яшчэ раз падыйшоў да нас і сказаў: «Гарэлка ніколі на здароўе не зашкодзіць, толькі на ўласную кішэнь».

Не знаю, ці то ва ўсіх рэстаранах так трактуюць сваіх кліентаў, як нас ў Гайнаўцы, ці толькі ў некаторых?

*Коля Міхалюк*
*вёска Давідавічы*

## КАРОВЫ І КУРЫ

Спулдзельня прадукцыйная ў Зубрах мае 85 штук калектыўных кароў. У сярэднім у год гэтыя каровы даюць 2 800 літраў малака. На ўмовы тых ваколіц гэта даволі высокія надоі малака. Спулдзельня мае вялікія даходы з гадоўлі курэй-бройлераў. Кожны год прадае яна каля 130 тыс. штук. Спулдзельцы жывуць даволі заможна. Кожны з іх таксама гадуе па 2—3 каровы і па некалькі дзесяткаў штук курэй.

*Л. Р.*

## У СПРАВЕ СТРАХАВАННЯ ЗБОЖЖА

Дзяржаўнае страхаванне (ПЗУ) ахоплівае збожжавыя культуры: жыта, авёс, пшаніцу і ячмень, а таксама травы. Страхаваць можна ад агню, паводак, градабіцця і буры. Але збожжа знішчаецца яшчэ і іншымі кліматычнымі ўмовамі. Да іх залічаецца снегавая плесень, вымаканне на сходзе зімы. Многа пасеваў у сакавіку або красавіку вымярзае. Падчас веснавых прымаразкаў гіне найбольш канюшыны. Часта на вёсках гавораць аб гэтых знішчэннях. Сяляне хацелі б, каб ПЗУ і такі род знішчэнняў браў пад увагу і прыходзіў гаспадарам з дапамогай.

*А. С. Сакольскі павет*



# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Tak się zaczęło" (NRD), 26—27. „Bumerang" (polski), 28—29. „Che/ opowieść o Guewarze, (włoski, 30—31.

**НАРАЎКА**

„Gra" (polski), „Zabawa w masakrę" (franc.), 27—31.

**НАРВА**

„Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), „Ostatni świadek" (polski), 27—31.

**ЧЫЖЫ**

„Nie ma powrotu Johny" (polski), „Operacja Belgrad" (jugosłowiański), 27—31.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Most" (jugosł.), „Na miłość nigdy nie jest zapóźno" (węgierski), 27—31.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Ostatni watażka" (bułgarski), „Profesor zbrodni" (węgierski), 27—31.

**ОРЛЯ**

„Szlacheckie gniazdo" (radz.), „Polowanie na muchy" (polski), 27—31.

**РАЙСК**

„Sąsiedzi" (polski), „Zwiadowca" (radz.), 27—31.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 26—27. „Młodość Chopina" (polski), 28—29. „Labirynt miłości" (radz.), 30—31.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Stopień ryzyka" (radz.), 26—27. „Doczekać zmroku" (USA), 28—29. „Dziura w niebie" (polski), 30—31.

**ЯНАЎ**

„Dżamila" (radz.), „Okna czasu" (węgierski), 27—31.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Grymasy" (węgierski), 26—27. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 28—29. „I znów z tobą" (węgierski), 30—31.

**МЕЛЬНІК**

„Lenin — karty życiorysu" (radziecki), 26—27. „Dywersanci (jugosłowiański), 28—29. „Taszkient miasto chleba" (radz.), 30—31.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), 26—27. „Zamach" (polski), 28—29. „Wkrótce nadejdzie wiosna" (jugosł.), 30—31.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Dżamilia" (radz.), „Okna czasu" (węgierski), 27—31.

**НОВЫ ДВОР**

„Dziewczyna z walizką" (włoski), „Marynarz Czyżyk" (radz.), 30—31.

---

вацъ сувязей з немцамі ў Польшчы, тады мы будзем гатовы пачаць з ім перагаворы. Што датычыць заўвагі наконт трох запалак, то я хацеў бы ведаць падрабязней, што гэта азначае?

Чэрчыль растлумачыў, што ён меў на ўвазе праблему граніц і што было б добра тут, за круглым сталом, азнаёміцца з думкамі рускіх адносна будучых граніц Польшчы. Потым ён, Чэрчыль, або Ідэн маглі б выкласці гэтыя меркаванні палякам.

— Мы мяркуем, — працягваў Чэрчыль, — што Польшчу трэба задаволіць, бясспрэчна, за кошт Германіі. Мы былі б гатовы сказаць палякам, што гэта добры план. І што лепшага плана яны не могуць чакаць. Пасля гэтага мы маглі б паставіць пытанне аб аднаўленні адносін. Але я хацеў бы падкрэсліць, што мы хочам існавання моцнай, незалежнай Польшчы, дружалюбнай у адносінах да Расіі.

Сталін, у сваю чаргу, выклаў пазіцыю Савецкага ўрада па гэтаму пытанню.

— Размова ідзе аб тым, — сказаў ён, — што ўкраінскія землі павінны адысці да Украіны, а беларускія — да Беларусі. Іншымі словамі, між намі і Польшчай павінна існаваць граніца 1939 года, устаноўленая Канстытуцыяй нашай краіны. Савецкі ўрад стаіць на пункце гледжання гэтай граніцы і лічыць гэта правільным.

Молатаў растлумачыў, што звычайна гэту лінію называюць лініяй Керзана.

— Не, — запярэчыў Ідэн, — там былі зроблены істотныя змяненні.

Молатаў заявіў, што Ідэн мае няправільныя звесткі.

Чэрчыль дастаў карту, на якой, як ён сказаў, нанесена лінія Керзана і лінія 1939 года. Тут жа была ўказана лінія Одэра. Ідэн, водзячы пальцамі па карце, пачаў тлумачыць, што паўднёвая частка лініі Керзана ніколі не была дакладна вызначана, і дадаў, што, як меркавалася, лінія Керзана павінна была праходзіць на ўсход ад Львова.

Сталін сказаў, што лінія на карце Чэрчыля нанесена няправільна. Львоў павінен застацца ў межах Савецкага Саюза, а лінія граніцы павінна ісці на захад. Сталін дадаў, што Молатаў мае дакладную карту з лініяй Керзана і з яе падрабязным апісаннем. Ён пры гэтым падкрэсліў, што Польшча павінна быць сапраўды вялікай, прамыслова развітай краінай і дружалюбнай у адносінах да Савецкага Саюза.

Тым часам Молатаў распарадзіўся даставіць яму карту, аб якой ішла гаворка. Праз некалькі мінут прынеслі вялікую чорную папку. Раскрыўшы яе, Молатаў разгарнуў карту на стале і ўказаў на нанесеную там лінію Керзана. Молатаў зачытаў таксама тэкст радыёграмы, падпісанай лордам Керзанам, дзе былі дакладна ўказаны пункты, па якіх праходзіць лінія. Пасля ўдакладнення гэтых пунктаў па карце пытанне стала гранічна ясна. Чэрчыль нічога не мог запярэчыць. Звяртаючыся да Сталіна, ён сказаў:

— Як бачна, удзельнікі канферэнцыі не маюць істотных разыходжанняў наконт заходніх граніц Савецкага Саюза, уключаючы і праблему Львова...

Рузвельт спытаў, ці можна будзе ажыццявіць перасяленне асоб польскай нацыянальнасці па іх жаданню ў Польшчу? Сталін адказаў станоўча. Пасля гэтага Чэрчыль сказаў, што параіць палякам прыняць распрацаваныя тут прапановы. Ён дадаў, што падрыхтаваў спецыяльны дакумент па польскаму пытанню, які ён хоча тут жа зачытаць, загадзя зрабіўшы агаворку, што не просіць згаджацца з гэтай прапановай у тым выглядзе, у якім яна прадстаўлена, паколькі ён сам яшчэ не прыняў канчатковага рашэння. Чэрчыль зачытаў наступны тэкст:

«У прынцыпе было прынята, што ачаг польскай дзяржавы і народа павінен быць размешчан між так званай лініяй Керзана і лініяй ракі Одэр з уключэннем у састаў Польшчы Усходняй Прусіі і Опельнскай правінцыі. Але канчатковае правядзенне граніцы патрабуе стараннага вывучэння і магчымага рассялення насельніцтва ў некаторых пунктах».

Сталін згадзіўся ў прынцыпе з формулай, прапанаванай Чэрчылем.

*(Працяг будзе)*

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7000 E-3

